




ГАЗЕТА ДЭМАКРАТЫЧНЫХ ПЛЫНЯЎ ПРЫДЗВІНСКА-ПРЫДНЯПРОЎСКАГА КРАЮ

*Слова з крыжа маўчання*

# «Мы стаялі ў пад'ездах, як сабакі...»

**Інтэрв'ю з вартавымі высокіх апартаментаў**

**Батракамі з горыччу называлі сябе службоўцы спецыяльнага ўзвода міліцыі па ахове савецка-партыйных органаў, з якімі наш карэспандэнт сустрэлася ў фае былога абкома КПБ. Сем міліцыянераў далі калектыўнае інтэрв'ю, расказалі і аб сабе, і аб гаспадарах, што «кармілі» іх на працягу 10—15, а то і больш гадоў.**

**—Вы з'яўляецеся асобнай структурай у органах міліцыі?**

—Так, гэта спецыяльная структура, якая была па ўсім Саюзе. Аплочвалі нам абком і аблвыканком.

**—Акрамя аховы службовых памяшканняў, якія яшчэ вы выконвалі функцыі?**

—Ахоўвалі спецкватэры, гэта значыць, кватэры першых сакратароў, ахоўвалі свайго роду абласную рэзідэнцыю, куды прыязджалі сакратары ЦК, ды і асабіста першых асоб.

**—Якая была сістэма допуску ў абком?**

—У першую чаргу, па службовых пасведчаннях адказных партработнікаў, дэпутатаў Вярхоўнага Савета, работнікаў Савета Міністраў, ну і ніжэйшага раённага маштабу—таксама з адпаведнымі пасведчаннямі.

**—Пасля адмены артыкула 6 Канстытуцыі СССР партыйныя функцыянеры мусілі стаць больш даступнымі. Хоць народу яны ўжо былі непатрэбныя, аднак у прэсе з'явіліся нават нумары іх тэлефонаў. Такім жа адкрытым зрабіўся і наш абком, калі на яго махнулі рукой. А як можна было трапіць на прыём у высокія апартаменты простаму смертнаму ў час так званага аўтарытэту партыі.**

—Яны павінны былі ісці ў прыёмны дзень, але, зразумела, праз нас.

**—Але, калі чалавек не ведаў пра той дзень прыёму, а прыйшоў у абком шукаць праўды, якую не мог знайсці на месцы. Прыйшоў як у самую высокую і справядлівую інстанцыю!..**

—Мы яго, будзем гаварыць адкрыта, проста адфутбольвалі. Прыходзілі ж такія батракі, як і мы, тыя, каму трэба памагчы. Вясковыя бабулькі, якім не аказалі на месцы дапамогі ў нарыхтоўцы сена ці дроў, ці з рамонтам... Дакладвалі, а нам заяўлялі: «Мне сёння некалі, я зараз ад'язджаю». Хаця—цэлы дзень заставаліся на месцы.

Ці іншае. Прыедзе сялянка. Ад гора ў яе рукі-ногі трасуцца. Уся ў слязах. А нам дадуць сігнал: не пускаць, і пакруцяць пальцам ля скроні, што ў яе—«во!»

З усіх першых найбольш спачувальна адносіўся да людзей С. Ц. Кабяк, для іншых жа простыя смертныя былі проста нішто.

**—А як да вас асабіста ставіліся партыйныя чыноўнікі? Пэўна ж, прыходзілася звяртацца і па пытаннях кватэр для сем'яў і з іншымі бытавымі пытаннямі!**

—Зразумела, прыходзілася, і многа разоў. Я (голас аднаго старшыны) восем год не маю кватэры. А адбіралі сюды з міліцыі самых лепшых, два ж гады прыглядаліся. Сабе яны выдзялялі кватэры кожны квартал. А нас абяцанкамі кармілі.

Пятнаццаць гадоў адслужыў, столькі ж і жыллё выпрошваў (голас другога старшыны). Пакуль не пайшлі ўжо цэлым узводам да першага. Толькі тады атрымаў кватэру.

**—А як чыста па-чалавечы! Ну хоць бы для прыліку: ці здароўкаўся хто з вамі, ці цікавіўся асабістым жыццём!**

—У апошні час крыху змяніліся. А так, што ім было да нас, батракоў? Мы ўвесь час руку пад казырком трымалі. Так патрабавалі.

Былі і ўказанні-інструктажы, як весці работу ў час прыёму грамадзян. А якія мы маем да гэтага адносіны, якое права?

Вось, напрыклад, загадчык, які не жадае прымаць чалавека, нам параду дае, як з ім пагаварыць і адправіць назад. Калі ж здаралася, што мы прапускалі крыху больш, рабіліся заўвагі, што дрэнна нясём службу.

**—А як вы неслі службу ў спецкватэрах!**

—У Шабашова мы стаялі ў будцы, было холадна: ні кажуха, ні электраабагравальніка не далі. Кабяк жа выдзеліў нам пакой, а вось калі перайшлі да Грыгор'ева на Савецкую, стаялі у пад'ездзе, як сабакі. Стаялі суткамі, трэба ж было глядзець: спіць ён ці не спіць. Потым яны пабудавалі сабе вілу па Чэхава. І куды б вы думаеце, яны нас пасадзілі? У падвал. Па вуліцы хадзілі. Схаваешся крыху, каб сагрэцца.

Калі Грыгор'еў ідзе дамоў, дзяжурны павінен яго таксама суправаджаць, на адлегласці. А раптам у яго капейку папросяць? І афіцэры УУС стаяць па Ленінскай да Чэхава.

У тым жа доме, дзе Грыгор'еў, жылі толькі высокія асобы. Там батракі, як мы, не жывуць, акрамя аднаго Валерыбудаўніка, ды і то жонка яго дэпутат. Там і Кулакоў, і Місуна, і Гаўрыльчык, і Галдыцкі. У той дом не маглі пасяліць не сваіх.

Нідзе той праўды няма. Каб нас, пэўна, вось так скарацілі ці прыпынілі, то па тры месяцы не плацілі б.

Нічога не купіш. А партыйныя асобы даўно ведалі, што да гэтага прыйдзем.

**(Заканчэнне на 2-й стар.).**

## Блюзнерства

**Летась на Дзяды народнафрантоўцы, прадстаўнікі дэмакратычных рухаў, устанавілі ў весцы Бельчыцы на Полаччыне на месцы расстрэлу ахвяр сталінскіх рэпрэсій крыж, які асвяцілі святары праваслаўнай і каталіцкай канфесій. Гэтае месца было добраўпарадкавана, заасфальтавана пляцоўка, людзі прыходзілі пакланіцца нявінным пакутнікам, прыносілі кветкі...**

**Ды нейкім блюзнерам, відаць, замінаў крыж, і яны цёмнай ноччу здзейснілі акт святатацтва, калі не сказаць больш—злачынства, зламалі крыж. Вечарам, калі сяляне сустракалі статак з пашы, ён яшчэ стаяў, а раніцай, калі выганялі кароў на луг, крыж быў зламаны, непадалёк валялася таблічка, адарваная ад яго.**

**Два дзядкі падняпі крыж і змацавалі абломкі дротам. Кіраўніцтва саўгаса-камбіната «Вясна» паабяцала зрабіць новы крыж.**

**Будзем спадзявацца, што блюзнераў-святатацтаў напаткае кара, калі не нашых законаў, то боская—за апаганьванне асвянцонага крыжа.**

**Ю. КАСЦЮК.**

## Жадаю распаўсюджваць

Шаноўныя спадары, супрацоўнікі газэты «Выбар»! Афіцыйна афармляю прадпрымальніцкую дзейнасць па распаўсюджванню дэмакратычных выданняў у горадзе Лепелі. Ужо заключаны некаторыя дамовы. Адмаўляюся распаўсюджваць толькі тыя выданні, арыентацыя якіх супярэчыць маім поглядам. Да такіх адношу «Славянские ведомости», «Мы и время» і г. д.

Азнаёміўся з першым нумарам вашае газэты. Выказваю жаданне яе распаўсюджваць.

**В. ШУШКЕВІЧ.**

**г. Лепель.**

**Шаноўны В. Шушкевіч! Хоць і завочна, але мы ведаем вашы погляды. Спадзяёмся, што вы будзеце супрацоўнічаць з намі, як журналіст. Калі ласка, пішыце да нас.**

*Пісьмы чытачоў*

## Газета— необходимая всем

Уважаемая редакция «Выбора»! Очень радует появление в нашем городе и крае газеты христианской направленности. Она особенно необходима белорусам, которые в большинстве своем находятся под гипнозом КПСС (религии Дьявола, его писания).

На что способен народ, избавившийся от этого гипноза, показали события 19—21 августа. Но не время эйфории. Ибо всем хорошо известно, как и сегодня под барабанный рокот всей мощи средств информации нас ведут в светлое будущее. Только сегодня уже не обещают сытную жизнь, так как вместе с разрушением Христовой церкви, потускнением официально дозволенного Христианства, «мерзость запустения» воцарилась в душах людских.

Единственное, что могло бы спасти белорусский народ, напоить корни его возрождения—это Церковь Христа. Но корни Белорусского Древа опалены и изрублены. Что толку развешивать на умирающих ветвях заморские игрушки да пышные лозунги? Лишь омытая нашими покаянными слезами Беларусь встанет из пекла, в которое ввергли ее.

Посылаю вам статью «Август 91-го», изданную Богородичным центром, в которой раскрывается духовная суть событий 19—21 августа.

Хотелось бы узнать о межконфессиональной Белорусской миссии «Дзьвина», о ее целях и сфере деятельности.

**В. КАТКЕВИЧ,**

**Ад рэдакцыі: Паважаны Валерый Мар'янавіч, удзячныя Вам за пісьмо, за добрыя словы ў адрас рэдакцыі нашай газеты. Артыкул «Август 91-го» атрымалі. Думаецца, у бліжэйшым нумары раскажам і аб дзейнасці Беларускай міжканфесійнай місіі «Дзьвіна».**




# Рэгіянальная канферэнцыя ў Наваполацку

19—20 кастрычніка ў Наваполацку адбылася рэгіянальная канферэнцыя БНФ «Адраджэньне», на якую сабраліся дэлегаты Прыдзьвінска-Прыдняпроўскага краю.

Аб палітычным, эканамічным і сацыяльным становішчы ў краіне выступілі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь Ю. Беленькі і Л. Баршчэўскі.

Сябра Сойму БНФ В. Вячорка прааналізаваў дзейнасць руху, акрэсліў яго задачы і накірункі на бліжэйшы час.

Удзельнікі канферэнцыі прыйшлі ды высновы аб мэтазгоднасці стварэння каардынацыйнай Рады дзеля ўзгаднення дзейнасці рэгіянальных структур.

Да 20 лістапада рэгіянальныя Рады павінны вызначыцца і абраць сваіх правамоцных прадстаўнікоў у каардынацыйную Раду.

Дэлегаты канферэнцыі прынялі Зварот да жыхароў Беларусі.

# Ланцугі толькі надарваныя ...

## ЗВАРОТ ДЭЛЕГАТАЎ 1-й РЭГІЯНАЛЬНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ СУПОЛАК БНФ ПОЛАЦКА-ВІЦЕБСКАГА РЭГІЁНУ ДА ГРАМАДЗЯН БЕЛАРУСІ

*Жнівеньскія падзеі распачалі новы этап у жыцьці Беларусі, выявілі сапраўднае аблічча ўсіх палітычных плыняў. Сканала перабудова, КПСС яшчэ раз здрадзіла свайму народу, урад ізноў прадэманстраваў сваю палітычную недарэчнасць.*

*У гэты час эканамічнага распаду і палітычнай нестабільнасці мы зьвяртаемся да ўсіх людзей добрай волі і чыстага сумленьня, чые сэрцы баляць за лёс Бацькаўшчыны:*

*—не дамо ўвесьці сябе ў зман, будзем памятаць, што ланцугі таталітарызму толькі надарваныя, але не зьнішчаныя, што патрэбны час і вялікія намаганьні, каб пазбавіцца ад іх ды не атрымаць новых;*

*—пакінем палітычным банкрутам хаваць сваіх мерцьвякоў, а самі згуртуемся дзеля пабудовы сапраўднай дзяржаўнасьці на прынцыпах дэмакратыі і глыбокай пашаны да правоў чалавека;*

*—зразумеем, што лёгкага выйсьця з тае прорвы, у якую нас зацягнулі бальшавіцкія кіраўнікі, не будзе, мы павінны шмат і цяжка працаваць, каб перадаць дзецям сваім беларускую дэмакратычную дзяржаву—гарант нашай незалежнасьці, як умову росквіту нашай эканомікі і культуры;*

*—аб'яднанымі намаганьнямі будзем выхоўваць гаспадара, памятаючы пра тое, што народ, які ўступае ў рынак, павінен атрымаць уласнасць. Толькі шырокая, сацыяльна справядлівая і эканамічна мэтазгодная прыватызацыя зможа папярэдзіць сацыяльны выбух, забясьпечыць кансалідацыю грамадства як умову выйсьця з крызісу і дасягненьня палітычнай і эканамічнай стабільнасьці. Абвесьцім рашуча: наша мэта—уласнасьць, культура і дэмакратыя, бо ўласнасць дае чалавеку свабоду, культура вучыць карыстацца ёю, а дэмакратыя яе абараняе.*

*—будзем пільнымі: кампартыя і яе «приводной ремень»*
*—старыя прафсаюзы, якія разам давялі народ да галечы, цяпер абвяшчаюць сябе «сіламі сацыяльнай абароны», дэмагогіяй і папулізмам абуджаюць разбуральныя інстынкты люмпена. На сёння толькі гэтыя сілы зацікаўленыя ў дэструктыўных дзеяньнях, у стварэньні перашкод тым, прагрэсіўным тэндэнцыям грамадскага разьвіцьця Беларусі.*

*Будзем дамагацца нацыяналізацыі маёмасьці КПБ—КПСС, якая цяпер паступова раскрадаецца наменклатурай, не адмаўляючы прыхільнікам камуністычнай ідэі пасьля вырашэння пытаньня пра маёмасць КПСС на карысць народа, правесьці свае арганізацыйныя мерапрыемствы;*

*—запатрабуем ад Вярхоўнага Савета неадкладна абмеркаваць і прыняць дэмакратычны закон аб выбарах, які дазволіць стварыць новыя дзяржаўныя органы, бо цяперашняя камуністычна-наменклатурная большасць не дае і не дасьць дэпутацкай апазіцыі БНФ, усім здольным і сумленным дэпутатам працаваць эфектыўна. У большасьці сваёй—гэта Савет учарашняга дня.*

*—запатрабуем адстаўкі Савета Міністраў, які зрабіўся запаведнікам былой наменклатуры і палітыка якога—гэта палітыка эканамічнага краху.*

*Наша выратаваньне—у нашай незалежнай дзяржаўнасьці, якая адзіная дасьць нам багацьце, свабоду і пашану цывілізаваных народаў. Можна жыць і ў турме, але вязьнем. Свабодным і паважаным чалавекам можна быць толькі ў свабоднай і незалежнай дзяржаве. Нашыя намаганьні і накіраваныя на стварэньне такой дзяржавы. Усіх, хто гэта зразумеў і хто ўсьвядоміў неабходнасць гэтага, мы заклікаем да супольнай працы.*

*Годзе нам распальваць вогнішча каля Бацькаўшчыны, якую расьпялі на крыжы! Хай сьвятая Пагоня напоўніць нашы сэрцы рашучасьцю і надасьць розум і сілы ў справе адраджэньня і шанаваньня Бацькаўшчыны.*

*Жыве Беларусь!*

**Прынята 20 кастрычніка 1991 года ў Наваполацку.**

# «Мы стаялі ў пад'ездах, як сабакі...»

**(Заканчэнне. Пач. на 1-й стар.).**

**—Канфлікты з наведвальнікамі былі? Пэўна ж, людзі галоўную крыўду таілі на вас!**

—І плакалі, і абзывалі. А як нам указвалі? Калі чалавек прыходзіў першы раз—гэта адно. А калі яго справа не вырашалася, і ён прыходзіў некалькі разоў, нам гаварылі, што ў яго з галавой не ў парадку, не трэба пускаць. І спісы нам давалі адпаведныя. Больш сотні такіх было, у тым ліку і грамадзянін Лісоўскі, што па Леніна жыве, трапіў. А паспрабуй пусці... Заўтра цябе ўбяруць.

**—А хто складваў і падаваў вам такія спісы!**

—У аддзеле абкома КПБ, Бруева Валянціна Васільеўна. Зараз у іншым месцы мазгі пудрыць.

Ды і ў сталовай што рабілася? Тут з 1917 года не быў «абэхээсэс». Адсюль выразкі неслі, каўбасы неслі, сюды—кашулі на прымерку, туфлі. Толькі пасля скарачэння талоны ўвялі. Ды нам і гэтага не было. Тут кажуць, што мы не іх, пойдзем у аддзел УУС, кажуць, што мы—абкомаўскія. Да Казловай Галіны Барысаўны з прафсаюза звярталіся: што мы—не людзі? На абутак 18 талонаў хіба не маглі выдзеліць? Усюды: «Вы—не нашы». А як адчысціць, тады ўсе знаходзіліся.

**—І часта было!**

—На тыдзень—па два-тры разы можна было атрымаць пілюлю... Гэта яны жылі пры камунізме, а мы заўсёды былі батракамі.

**—Хто зараз у гэтым будынку, да якога часу тут будзе ваша служба!**

—Не ведаем. Пакуль што нясем ахову. Некаторыя звальняюцца, пераводзяцца ў іншыя падраздзяленні міліцыі. Заходзяць сюды сакратары. Дабрыян часта выходзіць з сеткамі-клункамі. А што ён нясе, уласныя рэчы, ці відэакамеры, хто яго ведае? Толькі вядома, што дачу сваю, як будаваў, так і будуе. Аўтакран для гэтага з абкомаўскага гаража выкарыстоўвае...

Нам-то што? Мы—батракі. Яны-то ў Саветы паўціскаліся, то на іншыя кіруючыя пасады. Праўды ўсё роўна не будзе. Вось гэтыя мужыкі з БНФ правільна гавораць. «Нашы» нават забегалі, як яны з'явіліся...Нейкую японскую апаратуру дасталі, з 47-га кабінета калі які-небудзь мітынг, на плошчу з трубы прамень наводзілі. Кожны голас чуваць быў, як над вухам. А да людзей не выходзілі. Навошта ім людзі?!

**АД РЭДАКЦЫІ. Калі ў чытачоў гэтае інтэрв'ю выкліча сумненні, горш таго, будзе трактавацца, як нейкае надуманае аплёўванне камуністычна-партыйнай рэчаіснасці, рэдакцыя гатова прадставіць для праслухоўвання дыктафонны запіс.**

**Вера АДРАДЖЭНСКАЯ.**

*Хроника борьбы*

# Освобожден от занимаемой должности

## РЕЗОЛЮЦИЯ МИТИНГА, ПРОВЕДЕННОГО 26 ОКТЯБРЯ 1991 ГОДА БЕШЕНКОВИЧСКОЙ ОРГАНИЗАЦИЕЙ ОБЪЕДИНЕННОЙ ДЕМОКРАТИЧЕСКОЙ ПАРТИИ БЕЛАРУСИ В Г. П. БЕШЕНКОВИЧИ НА ПЛОЩАДИ ИМ. ЛЕНИНА

Отставки всего райисполкома в Бешенковичах потребовали 600 участников митинга

В Бешенковичском районе нарушения правил торговли приобретают все более угрожающий характер. Должностные лица района не контролируют справедливое распределение дефицитных товаров, таких как автомашины, мебель, импортная одежда и обувь и т. д. Одни и те же лица имеют возможность приобретать указанные товары по знакомству и неоднократно, в то же время многие граждане годами стоят в очереди в списках.

Нарушается порядок распределения квартир, кое-кто получает их незаконно. Средства, выделенные на строительство общегородских очистных сооружений, не осваиваются, в то же время идет бурное строительство дач и особняков и, в том числе, за государственные деньги. Заболеваемость детская и онкологическая растет.

Все это происходит при прямом попустительстве, а то и поощрении со стороны местных органов власти и в первую очередь председателя Бешенковичского райисполкома и райсовета народных депутатов Кузнецова Валерия Степановича, который, в нарушение установленного Законом порядка, используя должностное положение, помогал приобретать автомобили из рыночного фонда района своим родственникам и знакомым.

Учитывая изложенное, митинг постановляет:

1. Потребовать от депутатов райсовета отставки председателя райисполкома и райсовета Кузнецова В. С. вместе со всем составом исполкома.

2. Потребовать от прокурора района возбудить по фактам нарушения торговли и реализации автомашин против Кузнецова В. С. уголовное дело и отдать его под суд.

3. Принять решение о возврате незаконно реализованных автомашин и передачи их согласно очередности, со взысканием ущерба с виновных должностных лиц.

4. Создать независимую комиссию из числа депутатов и избирателей для проверки фактов нарушения реализации автомобилей и правил торговли, строительства особняков и дач, продажи в личную собственность жилых домов и квартир с опубликованием результатов проверки в прессе.

5. Потребовать от депутатов райсовета и поселкового Совета народных депутатов определить местом для проведения митингов площадь имени Ленина, а не парк Ткаченко, с обязательной трансляцией митингов по местному радио и освещением в печати.

На митинге присутствовало около 600 граждан. Резолюция принята подавляющим большинством собравшихся.

6. Выборы нового председателя райисполкома и райсовета проводить только всенародным голосованием населения всего района.

**АД РЭДАКЦЫІ: Нам паведамілі, што ў Бешанковічах адбылася сесія райсавета. В. С. Кузняцоў вызвалены ад займаемай пасады.**

# «РАБЫ—НЕ МЫ»



Десятки лет разделяют этих двух партийных вожаков Витебщины.

**Семен Николаевич Крылов** (на бывшем здании ОК КПБ ему посвящена мемориальная доска) стал председателем Витебского губернского комитета РКП (б) в начале 1919 года.

**Владимир Викторович Григорьев** закончил династию первых секретарей обкома КПБ в 1991 году.

Оба ратовали за всенародное счастье. Первый обещал торжество всемирной революции, второй—накормить жителей областного центра сосисками. Оба слова не сдержали.

История не повторяется. Не будем нынче весьма строги в суждениях об этих партийных лидерах. Они были не только проводниками «славных» дел партии, но и ее заложниками.

Проливший кровь за советскую власть, партийный и советский деятель С. Н. Крылов в 1938 году был репрессирован. Его жена, известная активистка народного образования и женского движения С. Шейндлина, которую арестовали вместе с мужем, по словам ветеранов КПСС, повесилась в Бутырской тюрьме.

Более 70 лет разделяют двух партийных идеологов. О том, чего за эти годы было больше—славы или бесчестия, сегодня стало известно многим. Революционная и трудовая поступь обманутых, изрешечённых неправдой миллионов людей, геноцид народов—все это великое наше в итоге вылилось, наконец, в осознанный всемирный позор, обратилось в разруху. Мёртвым, не дожившим до просветления умов, легче. А мы-то прозрели, посмотрели на себя со стороны. Правда, далеко еще не все, не позволяет некоторым бывшая, впитавшаяся в кровь и плоть, идеологическая выучка.

И если уж нам гордиться, то можно одним: совершался над советским народом ужасный эксперимент, а народ выжил, а он трудится, надеется, мечтает...

Правда, может случиться худшее—грянет катастрофа, коль от нарастающей дороговизны, нехватки продуктов и одежды озлобимся, отупеем в очередях и тем самым выстелим ковровую дорожку для новых гэкачепистов. А если придут диктаторы, то неизвестно какая ожидает судьба наших детей и внуков.

Есть другой путь, есть свет в конце тоннеля: невзирая на трудности, даже на угрозу голода, дружно постараться изменить экономические отношения, отказаться от чуть ли не загубившего нас окончательно принципа—«и всё вокруг моё».



***На снимках:** так «принимали» демонстрации трудящихся в Витебске в день 7-го ноября в первую и одну их последних годовщин празднования Великого Октября. На трибуне (площадь Ленина) партийные и советские работники города (справа).*

*Весткі з раёнаў*

# Што паказала сесія

11 кастрычніка адбылася чарговая сесія Новалукомльскага гарсавета, якая пакінула вельмі цяжкае ўражанне і пацвердзіла выключны крызіс гарадскіх улад: іх рашэнні не выконваюцца, зачастую ўвогуле ігнаруюцца, самі члены выканкома не з'яўляюцца на пасяджэнні. Па дэпутацкіх запытах не прымаюцца меры, а то і зусім не даецца ніякіх адказаў (напрыклад, дырэктарам аб'ёмнага домабудавання т. Судаковым).

Сумна, што балючае пытанне аб будаўніцтве ў горадзе не разглядалася толькі з-за таго, што на сесію не з'явіліся кіраўнікі будаўнічых арганізацый (т. т. Пугачоў і Шавялёў). Здаецца ж, гэтыя асобы павінны быць больш за ўсіх зацікаўленымі.

Самым вострым было пытанне: «Справаздача кіраўніцтва гархарчпрамгандлю па выкананню рашэнняў папярэдняй сесіі». Выявілася што нічога не зроблена. Ды і як магло быць інакш, калі намеснік дырэктара ГХПГ Л. В. Шуць заявіў, што да іх такое рашэнне ўвогуле не паступала. Аказалася, нібы пытанне дарэмна ўключана ў павестку дня сесіі.

Дзякуючы «мастацкаму» афармленню рашэнняў папярэдняй сесіі намеснікам старшыні гарсавета Акімавым, работа кіраўніцтва гархарчпрамгандлю прызнана «здавальніючай», і ні якой размовы аб паўторным разглядзе гэтага пытання на папярэдняй сесіі, як бы ўвогуле не было.

З гэтае нагоды ўзняўся скандал. Дэпутаты і выбаршчыкі справядліва абвінілі т. Акімава ў падробцы. Сесія стварыла камісію па расследванню прычын гэтага падлогу. У наступны раз яна дакладзе аб прыняцці адпаведных мер адносна работы намесніка старшыні гарсавета, тым не менш, дэпутаты (І. Т. Ласкіна, А. В. Латышаў) звярнулі ўвагу на работу гархарчпрамгандлю, на тое, што лаўкачы ўсімі спосабамі вывозяць дэфіцытныя тавары і вязуць іх у Польшчу, што гэта—нажыва за кошт працоўных, якая ніяк не кантралюецца.

Перад прыняццем рашэння па рабоце ГХПГ праект рашэння быў не падрыхтаваны (старшыня камісіі т. Бондар, нам. старшыні гарсавета т. Акімаў).

**Узнікае пытанне:** дык чым займаецца т. Акімаў, калі ў горадзе выключна цяжкое становішча з захаваннем бульбы, калі ў сховішчы, што належыць аграфірме «Этон» пры праверцы выявілася, што перабраныя клубні пакрыліся грыбковай плесенню, і, калі не прыняць тэрміновых мер, то сталовая, школа, бальніца, СПТВ-83 застануцца без другога хлеба.

Ці не час таварышу Акімаву адказваць за гэтую безгаспадарчасць?

**В. МЫКАЛЬНІКАЎ,**
**старшыня партыйнай арганізацыі Аб'яднанай дэмакратычнай партыі Беларусі г. Новалукомля.**

# АГИТИРУЮТ В РАБОЧЕЕ ВРЕМЯ

***С этим заявлением обратились Шумилинские демократы к местному прокурору С. Боровику и народному депутату Верховного Совета А. Штокину, председателю ВС Республики Беларусь С. Шушкевичу.***

Уже почти две недели в разных организациях (но текст один), колхозах Шумилинского района производится сбор подписей под обращением граждан к народным депутатам Верховного Совета Республики Беларусь с требованием «безотлагательно отработать следующие вопросы».

Среди разных экономических и социальных вопросов обращения, которые не решались в течение прошедших 73 лет, присутствует один, но очень важный политический вопрос: «Предоставить коммунистам Белоруссии в соответствии с законом республики право самостоятельно решать судьбу своей партии и дать оценку ее руководству».

И это происходит после принятия закона о департизации, который политические действия на территории предприятий и организаций запрещает.

Сбор подписей под этим обращением делается на территории разных предприятий (КБО, райбольница, колхозы, РАПТ и т. д.), в рабочее время и должностными лицами среди своих подчиненных. Например, в Шумилинском РАПТ начальниками всех служб с участием начальника ОК.

Просим произвести расследование, кто это организовал, остановить сбор подписей под политическими документами с нарушением закона Республики Беларусь и привлечь к ответственности виновных.

Законом никому не запрещается вести политическую деятельность представителям любой партии, движениям и их почитателям. Но все без исключения должны это делать, согласно закона, на одинаковых условиях: не на рабочих местах и не в рабочее время, и не используя свое служебное положение.

Текст обращения прилагаем.

**В. ВИНОКУРОВ,**
**депутат Шумилинского райсовета.**

